У нумары: Пленум ГП БГКТ · Хлеб ці агонь · Барон Фон Гольдрынг пасля вайны


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (428) | ГОД IX | 10 МАЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.




Ужо дваццаты раз у свабоднай Польшчы працоўныя Беластока адзначалі пралетарскае свята — Першамай. На здымку ганаровая трыбуна.



Калектыў «Сяржана» на першамайскай дэманстрацыі.



Ідуць самыя малодшыя грамадзяне — гарцэры.



Вучаніцы педагагічнага ліцэя ў Беластоку. Можа, за год, два ці тры сустрэнеце не адну з іх у сябе ў вёсцы як настаўніцу?



Дэманстрацыі няма канца. Быццам увесь 130-тысячны Беласток высыпаў на Ліпавую вуліцу.

Фота В. Рудчык

АНДРЭЙ БАРВЮК

## БЕЛАСТОЦКАЕ ВАЯВОДСТВА НА ФОНЕ КРАІНЫ

Якую ролю адыгрывае Беластоцкае ваяводства ў гаспадарцы краіны? Якія яго гаспадарчыя функцыі на фоне краіны? Якое месца займае Беласточчына сярод іншых ваяводстваў у Польшчы? Вось, для прыкладу, пытанні, якія часта чуем у сяброўскіх размовах, у навуковых дыскусіях. Прыведзены артыкул з'яўляецца сціплай спробай адказаць на пастаўленыя пытанні. Пяройдзем да фактаў.

Плошча Беластоцкага ваяводства складае 7,4% агульнай плошчы краіны, а насельніцтва — толькі 3,8% агульнага насельніцтва Польшчы. З супастаўлення гэтых лікаў вынікае, што сярэдняя шчыльнасць насельніцтва па 1 кв. км. у нашым ваяводстве меншая, чым сярэдняя па краіне. І сапраўды, сярэдняя шчыльнасць насельніцтва ў нас складае 49 жыхароў на 1 кв. км, а па краіне — 98. Значыць, у два разы больш, чым у нашым ваяводстве. Цяпер звернем увагу на склад насельніцтва ваяводства. Колькасць гарадскога насельніцтва ў ваяводстве складае 30,1%, а па краіне — 48,8%. Гаворачы інакш, па ўсёй краіне больш людзей жыве ў гарадах, чым на Беласточчыне. І наадварот, на Беласточчыне параўнаўча больш людзей жыве на вёсцы, чым у іншых ваяводствах.

### НАТУРАЛЬНЫ ПРЫРОСТ

Дэмаграфічную дынаміку грамадства ілюструюць паказнікі натуральнага прыросту насельніцтва. Такія паказнікі аблічваем так: ад колькасці выпадкаў нараджэння адымаем колькасць выпадкаў смерці за адзін год і глядзім колькі з атрыманага ліку прыпадае на 1000 жыхароў. Вынікамі такога аблічэння і будзе паказнік сярэдняга натуральнага прыросту насельніцтва. Чым большы паказнік, тым большая дэмаграфічная дынаміка грамадства, тым больш нас прыбывае. І наадварот.

Цяпер звернем увагу на гэтыя паказнікі ў ваяводстве і па краіне.

У 1962 годзе паказнікі натуральнага прыросту насельніцтва ў ваяводстве склалі 13,5, а па краіне — 11,7. Гэтыя лікі паказваюць, што прырост насельніцтва ў ваяводстве на 1000 жыхароў складае каля 14 новых грамадзян, што ў абсалютных ліках дае 15.200 новых грамадзян у ваяводстве. На столькі жыхароў павялічылася колькасць насельніцтва ў Беластоцкім ваяводстве, а ва ўсёй Польшчы — на 355.400 новых грамадзян.

Як у гарадах і як на вёсках?

Па-рознаму. Напрыклад, у Беластоцкім ваяводстве паказнік натуральнага прыросту ў гарадах склаў 13,8, а па вёсках — 13,4. Аналагічна па краіне: у гарадах — 9,8, на вёсках — 13,6.

У заключэнні нашых разважанняў аб паказніках натуральнага прыросту насельніцтва трэба сказаць, што Беласточчына мае большы паказнік натуральнага прыросту ў агульным рахунку ў гарадах. На вёсках адваротнае становішча. Па краіне бачым большы натуральны прырост на вёсках, чым на Беласточчыне.

### ЗАНЯТАК НАСЕЛЬНІЦТВА

У Беластоцкай аграмаджанай прамысловасці занята было ў 1962 годзе 47 900 чалавек. Працэнт колькасці беластоцкіх рабочых сярод усёй колькасці рабочых у Польшчы складае 1.44%. Возьмем другое параўнанне. З дадзеных статыстычнага гадавіка ГУС за 1961 год вынікае, што ў 1960 годзе ў Польшчы прыпадала ў сярэднім па III рабочых на 1000 жыхароў, а ў Беластоцкім ваяводстве — 45. Як бачым, хоць Беласточчына зрабіла вялікі крок наперад у працэсе індустрыялізацыі аднак яшчэ значна адстае ад сярэдняга стано-

(Працяг на стар. 4)

## АБ ВЁСЦЫ АЎГУСТОВА І АБ КАРАЛЮ АЎГУСЦЕ

Вы, мабыць і не ведаеце, чаму Аўгустова (што ля Бельска) называецца Аўгустовам. У Аўгустове аднак усе аб гэтым ведаюць.

— Аўгустова, — інфармаваў мяне аўгустоўскі солтыс Сцяпан Навіцкі, — называецца так таму, што кароль Аўгуст надаў яму гарадскія правы. (Забыў запытаць я солтыса, які гэта Аўгуст, бо каралёў Аўгустаў, трэба ведаць, было некалькі). І ад таго часу, — працягваў солтыс, — ва ўсіх дакументах пісалася: мешчанін вёскі Аўгустова такі і такі. Толькі цяпер вось так неяк усё ў нас зусім па-вясковаму, — сказаў солтыс Навіцкі, шыpока ўсміхаючыся.

Гісторыя аднак не была паслядоўнай. дэградуючы аўгуставян у звычайныя сяляне. Не ведаю, ці віна ў тым караля Аўгуста, ці проста блізкасць горада Бельска, а трэба сказаць, што жыццё сялян вёскі Аўгустова, іх амбіцыі і імкненні ў многім нагадваюць жыццё гаражан з Бельска.

Першае, што карысна адрозднівае аўгуставян ад жыхароў іншых нашых вёсак, гэта тое, што ўся моладзь пасля заканчэння сямі класаў пачатковай школы ідзе вучыцца ў сярэднія школы. А яшчэ больш цікавае і карыснае тое, што многія з іх вяртаюцца потым у родную вёску на гаспадарку і становяцца адукаванымі, інтэлігентнымі гаспадарамі. Налічылі мы з солтысам звыш 20 такіх маладых добрых гаспадароў.

І наогул трэба сказаць, што людзі з Аўгустова не пхаюцца за ўсякую цану ў горад. У Бельск даязджае адсюль каля дзесятка чалавек, усе яны займаюць адказныя пасады ў розных павятовых установах. На фізічныя работы ніхто не выязджае, відаць, лепш аплочваецца працаваць на сваёй гаспадарцы, чым на нейкіх прадпрыемствах. «У свет» ідуць з Аўгустова толькі людзі добра да гэтага падрыхтаваныя, з нейкай прафесіяй. Найбольш выйшла адсюль педагогаў. Сярод знаёмых мне настаўнікаў налічыў я аж 16 родам з Аўгустова.

У Аўгустове асноўныя палявыя работы механізаваны. Многія сяляне маюць тут уласныя найбольш патрэбныя машыны, сельскагаспадарчы гурток мае 4 трактары і мноства іншых сельскагаспадарчых машын. Кантрактуюць гаспадары пераважна прамысловыя рас-

(Працяг на стар. 4)



Вёска Аўгустова

# СЦЯГ ГАЙНАЎСКАМУ БЕЛАРУСКАМУ ЛІЦЭЮ



**Гайнаўка, нядзеля, 19 красавіка гэтага года.** Вясенняе сонейка шчодра залівае прасторную прышкольную пляцоўку Гайнаўскага беларускага ліцэя. Людна тут, як ніколі. Сабраліся ўсе вучні ліцэя, прышлі шматлікія дэлегацыі другіх гайнаўскіх школ, прыехалі госці з Беластока, прысутнічаюць прадстаўнікі ўсіх павятовых устаноў. Адчуваецца хвалюючае напружанне. **Гэта ж сёння Гайнаўскі беларускі ліцэй атрымае свой сцяг.**



Прадстаўнікі ваяводскіх і павятовых устаноў, прадстаўнікі палітычных і грамадскіх арганізацый, дэлегаты ад школ Гайнаўскага павета прыбіваюць да сцягавага дрэўка памятковыя значкі. Хай сённяшнія і будучыя вучні Гайнаўскага беларускага ліцэя ведаюць, хто ім падараваў гэты сцяг. Здымак наш паказвае момант, у якім памятковы значок прыбіў дырэктар братняга беларускага ліцэя ў Бельску — **Яраслаў Кастыцэвіч.**



**Ад імя Апякунчага камітэта ўручыў сцяг дырэктару ліцэя Анастасіі Тропак Кастусь Майсеня, старшыня Гайнаўскага ПЗГС-у.**



**Сцяг у руках школьнікаў. На яго пакляліся яны старанна вучыцца і служыць сваёй народнай Айчыне.**



**Прысяга.**



Урачыстасці закончыліся вялікім канцэртам у выкананні школьнікаў Гайнаўскага беларускага ліцэя. Канцэрт адбыўся ў Доме Культуры «Гурнік». Асабліва бурнымі апладысментамі ўдзельнікі ўрачыстасці ўзнагародзілі школьнікаў за паказ мастацкай гімнастыкі.

**Фота: В. РУДЧЫК і М. ХМЯЛЕЎСКІ**

# ПОСПЕХІ ВЁСКІ

Мала ёсць на Бельшчыне такіх прыгожых вёсак, як Міклашы. Прыгожыя дамы з памаляванымі акяніцамі, добра агароджана амаль у кожнага гаспадара усадзьба, многа саду і іншых дрэў. Гэтая вёска бярэ ўдзел у павятовым конкурсе чысціні і магчыма зойме адно з першых месц.

Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі жыхары Міклашоў пастанавілі грамадскай працай адзначыць дзве знаменальныя даты, IV З'езд ПАРП і XX-годдзе народнай улады. Грамадскім чынам будзе тут ачышчаны супрацьпажарны басейн, будзе зроблена 300 метраў дарогі - жвіроўкі і перабудавана на дарозе 2 пропускі на ваду. Усе гаспадары датэрмінова ўплацяць належнасці на грамадскі фонд будовы школ і выканаюць усе гаспадарчыя абавязкі.

У мінулым 1963 годзе партыйная арганізацыя Міклашоў на чале са сваім сакратаром Міколам Жужалем правяла вялікую прапагандовую работу з мэтай арганізавання ў вёсцы сельскагаспадарчага гуртка. Сельгасгурток арганізаваўся, закупіў трактар з поўным камплектам сельскагаспадарчых машын. Ад самага пачатку работа пайшла арганізавана і добра. Ужо ў першым годзе свайго існавання сельскагаспадарчы гурток атрымаў 7 тысяч чыстага даходу. Добры старт яшчэ лепш арганізацыйна ўмацаваў арганізацыю.

1964 год прынясе сельгасгуртку далейшыя і значна плённейшыя дасягненні.

Ёсць у Міклашах адна цяжкая справа, якая стварае дадатковыя цяжкасці ў працы сельгасгуртка. Ёю з'яўляецца шахаўніца — раздробленасць палеткаў. І вось гэта не дазваляе поўнасцю выкарыстоўваць сучасную сельскагаспадарчую тэхніку.

У грамадзе Орля толькі ў двух вёсках — Міклашах і Кашалях існуе шахаўніца. Ва ўсіх іншых вёсках яна ўжо ліквідавана.

І тут неабходна мясцовым уладам зрабіць усё, каб і ў гэтых вёсках яна перастала існаваць.

(мх)

З ПІСЕМ ЗЕМЛЯКОЎ

# ТАК НЕ РОБЯЦЬ!

Арганізаваўся ў нас, Жэня, курс гатавання і пячэння. Пэўна, што добра ўмець гатаваць і пячы, дык пайшлі на курс бедныя і багачы.

Арганізатарамі гэтага курса, які цягнуўся толькі сем дзён, была наша Надзя, а інструктарку прыслалі з павету. Кабетка вельмі прылюдная і ўсё надта добра тлумачыла, так што мы хутка навучыліся смачна гатаваць і пячы. У час курса на практыку прыносілі свае прадукты, адна Надзя нічога не прыносіла, бо лічылася арганізатарам таго курса, але на яе мы не вельмі зважалі і ніхто не казаў ёй, каб прыносіла.

А калі курс наш канчаўся, усе дамовіліся даць па пару злотых, наладзіць бяседную прыгоду, запрасіць сваіх мужыкоў. Збіраць грошы сама ўзялася таксама Надзя, хаця сваіх грошай не давала і не дала. Узяла яна сабе ў памочніцу блізкую суседку Валю і разам удваіх куплялі, што хацелі, нікога не пытаючы. У астатні дзень усё мы гэта падрыхтавалі, многа ўсяго напяклі і нагатавалі, наварылі і парашылі запрасіць на нашу бяседу прэзэса, які не адкінуўся ад вясковага запрашэння і прыехаў, а як жа.

Калі настаў ужо вечар, усе мы пасыходзіліся з мужыкамі і спачатку было вельмі весела, паказвала на гожую прыгоду і задавальненне, але пасля ізноў знайшлася гэта Надзя з Валяю і засмуціла ўсіх. Што было нагатоўлена, яны ўзялі ў свае рукі і больш нікога не дапускалі, і не падалі ўсяго на сталы, толькі ў асобным пакоі сядзелі і запрасілі да сябе прэзэса.

Потым Валя пачала ўручаць падарунак інструктарцы, як бы толькі ад сябе і Надзі, а таго не падумала, што ён куплены за грошы ўсіх удзельнікаў курса. Калі ўсе запыталі Валю, чаму гэтак зрабіла, тады яна адказала, што не хоча перад прэзэсам і інструктаркай застацца свіннёю. Але перад людзьмі засталася, ды яшчэ і вялікаю!

Аказваецца, яна не ўмее не толькі з суседзямі жыць, але наогул з людзьмі — нікога не любіць, цярпець не можа, калі хто супрацівіцца ёй.

На другі дзень папрыходзілі бабы забіраць сваю пасуду з бяседы, а Валя пачала апраўдвацца і бажыцца, дайшло да таго, што ўзяла адну маладзіцу за валасы, але на шчасце прыехалі якраз кабеты з суседняе вёскі і ўсё абціхла.

Вось як у нас Надзя з Валяю захацелі моцна праславіцца гасціннасцю і гаспадынямі добрымі, каб іх пан прэзэс пахваліў і інструктарка мястовая выслаўляла ў далёкім горадзе.

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

# ПАРТЫЙНАЯ ГРУПА Ў ЛІЦЭІ

У Белькім педагагічным ліцэі актыўную выхаваўчую дзейнасць праяўляе гурток Саюза сялянскай моладзі.

Пры гэтым гуртку арганізавалася дзесяціасабовая партыйная група. У рады кандыдатаў ПАРП былі прыняты вучні 11 класаў, якія ў гэтым годзе закончваюць ліцэй і восенню пачнуць працаваць у школах. Нядаўна адбыўся справаздаўча - выбарчы сход ССМ, у якім узялі ўдзел сакратар КП ПАРП Язэп Пэхоўскі і старшыня павятовага праўлення ССМ Анатаць Скарбіловіч.

У справаздачным дакладзе Янка Войцюк расказаў аб дзейнасці гуртка: аб супрацоўніцтве з вясковымі гурткамі ССМ, аб арганізаванні культурных вечарын, цікавых дыскусій, утрымоўванні перапіскі з савецкімі вучнямі, аб апецы над магіламі савецкіх салдат, загінуўшых за вызваленне Бельшчыны і г.з. Сход пастанавіў актыўна ўключыцца ў працу грамадскім чынам і ахвярнай працай адзначыць XX гадавіну Народнай Польшчы. Новым старшынёй ССМ была выбрана Зіна Сахайдак.

Найбольш урачыстай часткай схода было ўручэнне членам партыйнай групы кандыдацкіх білетаў. Уручаў іх сакратар КП ПАРП Язэп Пэхоўскі.

**Янка Здаеоўскі**
Педагагічны ліцэй
у Бельску - Падляшскім.




## АБГАВОРАНА

Ён у жыцці, як на наш век,
Кажуць, добры чалавек.
Можа й добры, ды ці ўсім?
Але справа тут не ў тым.
Прыйшла кепская пара,
Яму жонка памерла.
Давай новую шукаць,
Усё вёскі аб'язджаць.
Вось прыехаў і да нас,
У Бандары ў добры час.
Хутка раду нехта даў,
Цуда-дзеўку падказаў.
Толькі глянуў на яе,
Сказаў: — Жонка будзе мне.
Узяла з ходу красатой,
А да таго й дабратой.
Тут як удовы паглядзелі,
Як на крылах узляцелі.
Хутчэй, хутчэй пляткаваць,
Дзеўцы мужыка забраць!
Абгавораў было многа,
Сустракалі ад парога
Яго тыя самы рэчы:
— Не бяры бяды на плечы.

Відаць хлопец з яго свой,
Плюнуў на пляткарак рой,
Не паверыў дурнаце,
Ажаніўся, як хацеў.

АДАМ ШЫШКО

У Боне вядуцца перагаворы аб стварэнні новага амерыкана-заходнегерманскага танка.

(з газет)



УВЕСЬ У БАЦЬКОЎ

### БАЦЬКА І СЫН

Сын да бацькі:

— Тату, ці магу адзець твой новы касцюм?

— Зразумела. Але што з табой стала, сынку, што ты пытаеш дазволу?

— Бо не магу яго знайсці.

Прыслаў **Ян Ялінік**

### ПРЫСЯГАЎ

Язэп і Янка пайшлі ў гасподу выпіць па сто грам. Янка, узяўшы ў рукі напоўнены кілішак, закрыў вочы. Язэп пытае:

— Янка, чаму ты закрыў вочы?

— Я, браток, жонцы прысягаў, што на гарэлку глядзець не буду, — адказаў Янка.

Прыслала **Зося Гламбоцкая**

### ВЕЛЬМІ ХУТКА

Міліцыянер да шафёра:

— Вы ехалі восемдзесят кіламетраў у гадзіну. Плаціце мандат.

— Добра, — адказвае шафёр, — але я да вас маю адну просьбу: напішыце, што я ехаў сто дваццаць у гадзіну. Я ж хачу прадаць гэты хлам.

Прыслаў **Мікалай Грыгарук**

## УСЯЧЫНА

### Першая прагулка



Мілы і здзіўляючы здымак. Аслы не маюць апініі надта разумных. Тым часам асліца «Мары» выявіла не абы які спрыт, каб свае слабенькае жарабятка (важыла толькі 17 кг) вывесці на свежае паветра. Звычайна малыя вослікі з першага дня маюць дастаткова сілы, каб рухацца самастойна. Гэты падарожнічае на хрыбце мамы. Праўда, не вельмі выгадна, але надзейна.

**АКЕНЦА ДУМАК**

**Чытаць усяго зусім не трэба. Чытаць трэба толькі тое, што адказвае на ўзнікшыя ў душы пытанні.**

**Леў Талстой**




**Калі малпа засмяялася, убачыўшы сябе ў люстры, нарадзіўся чалавек.**

### НЕ ТАКАЯ ХВОРАЯ

Хлапец, які збіраўся жаніцца, даведаўся, што яго нарачона захварэла. Сябра яму параіў купіць кветак і занесці сваёй каханай. Хлапец пайшоў да агародніка і кажа:

— Я хацеў бы купіць пару кветак для маёй хворай нарачонай.

— Маю вельмі прыгожыя ружы, — прапануе агароднік. — Па дзесяць злотых адна.

— Па дзесяць злотых? — здзіўляецца хлапец. — Ну яна не такая ўжо хворая.

Прыслала **Ліда Іванюк**

### У ДОКТАРА

Доктар выслухаў старую жанчыну, напісаў рацэпт і гаворыць:

— Я вам прыпісаў жалеза.

— Ай, паночку, я ніводнага зуба не маю, — узмалілася старая.

### ГУЛЬТАЙ

**— Чым ты займаешся?**

**— Нічым.**

**— Дык з чаго жывеш?**

**— От жыву.**

**— Ды што ты робіш?**

**— Ем і сплю.**





— Гэта ён мяне спакусіў...

## НЕДАРАЗУМЕННЕ

На беразе таўпілася група людзей, прывабленая відам патанаючага.

— Гэта будзе першым сёлета, — сказаў дзядзька з пугай. — Вада яшчэ халодная, а дурня панясло купацца.

— У халоднай вадзе сутарга хапае нечакана, — сказаў лысы.

— Людзі! — надрывалася маладуха, заламваючы рукі. — Ратуйце, чалавек топіцца!

— Самі бачым, не барач топіцца, а чалавек, — адазваўся дзядзька. — Толькі вада неадпаведная: чалавека выратуеш, а сам схопіш насмарк.

У гутарку ўмяшаўся віхрасты хлапец:

— Цікава, хто топіцца, наш ці чужы?

— Здаецца, з суседняй вёскі, — сказаў дзядзька.

— Калі не памыляюся — працаўнік нарыхтовачнай канторы.

— Справа ясная, пракраўся і топіцца, — сказаў віхрасты.

— Людзі, дзе вашы сэрцы?! — выкрыкнула маладуха. — Паспяшайце, вось галава паказалася.

— Самі бачым, галава яшчэ трымаецца, а як іншае — невядома, — адазваўся лысы.

— У жніўні тут мелка, а цяпер пасля дажджу прыбрала вада, — заўважыў дзядзька.

— Ад берага з дзесяць сажняў будзе, — прыцэльваўся віхрасты.

— Людзі вы ці вырадкі бяздушныя! — завішчала маладуха. — Не сорам вам, калі сама кінуся ў ваду?

— Шпар, раздзявайся, будзе на што паглядзець, — згадзіўся дзядзька і дадаў: — Дрэнна, як топіцца лысы, такога не выцягнеш за валасы.

— Не відаць ужо галавы, толькі рука мільгае з вады, — заўважыў лысы.

— Значыць, яшчэ трымаецца за паветра, — вытлумачыў віхрасты і пачаў расшпільваць пояс.

— Нарэшце, ды ты патрапіся, родненькі! — закрычала маладуха.

— Нецярплівая, сараматніца, адвярнулася б, калі я сцягваю нагавіцы, — параіў віхрасты.

— Старшыню рады клікнуць бы, за выратаванне патанаючых даюць медалі, — сказаў лысы.

— Зноў паказалася галава, — паказваючы пугай, сказаў дзядзька.

— Жывучы, іншы даўно б скробаў дно, — заўважыў лысы.

Сцягваючы кашулю, віхрасты папрасіў: — Папільнуйце маё барахло. Калі застануся голым, дзе прышпілю медаль?

— Святыя ўгоднікі! — загаласіла маладуха. — Чалавечая душа гіне, а ён аб нагавіцах клапоціцца.

— Клапачуся аб сваім, — адазваўся віхрасты. — Купіш мне новае?

— Ды ты, ірад, лезь хутчэй у ваду! — выкрыкнула маладуха.

— Ратаваць — я, лаяць — мяне, а благаславіць няма каму, — паскардзіўся віхрасты і, падыйшоўшы да вады акунуў ступню. Затым пачаў скакаць на адной назе, прыгаварваючы: — Смаліць, як восенню.

Маладуха не вытрымала і сапхнула віхрастага ў раку.

Раздаўся пляск. Віхрасты апынуўся па пуп у вадзе. У той жа момант, пабач вынырнуў тапелец і аддуваючыся вылез на бераг. «Тапелец» абвёў позіркам людзей і сказаў:

— Чаго раты паразяўлялі? Не бачылі плыўцоў з Эльзэтэсу? Перад спаборніцтвамі не даеце спакойна патрэніравацца.

Прыкмеціўшы вылезшага з вады віхрастага, плывец спытаў: — А ты, хлопча, з якога клуба?

— Я з таго клубка, — паказваючы на людзей, сабраўшыхся на беразе, адказаў віхрасты і, звонячы зубамі, пачаў адзявацца.

*Дзядзька Левон*

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

На просьбе **Веры Сушч** з Кошак, Бельскага павета, а таксама **Зоі Сцепанюк** і **Ані Грыгарук** з Бельска, змяшчаем сучасную папулярную песню.

## BATUMI



**W swych wędrówkach przeszłyśmy wiele miast,**
**wiele mórz i rzek, wiele gór wśród gwiazd.**
**Ale miasto o którym śpiewamy dziś —**
**milsze jest, bo z nim wiążą się nasze sny.**
**Batumi, eh Batumi,**
**herbaciane pola Batumi...**
**Cykadami dźwięczący świt,**
**Swiadkiem był szczęścia chwil,**
**Batumi, eh Batumi,**
**herbaciane pola Batumi...**
**Cykadami dźwięczący świt**
**Swiadkiem szczęścia był w Batumi...**
**Z ciężkim sercem żegnamy Gruzji brzeg,**
**śpiew twój dźwięczny, wiatr drogi echem pień...**
**Dziś, gdy oczy przymkniemy — widzimy znów**
**obraz ten, to marzenie naszych snów.**
**Batumi, eh Batumi itd.**




Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bltk L-3